Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 23 010.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236 8549

# НАВІНЫ



Пятніца, 10 ліпеня 1998 г. | № 73 | Кошт свабодны

СВАБОДА
Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Дразды: канфлікт нарастае

**На сустрэчы палітычных экспертаў Еўрапейскага Саюза, якая адбылася 6 ліпеня ў Вене, разглядалася пытанне аб магчымым разрыве дыпламатычных адносінаў з Рэспублікай Беларусь. Канчатковае рашэнне павінны прыняць міністры замежных справаў ЕС на сустрэчы 13 ліпеня. Падставай для такога рашучага кроку стала высяленне паслоў з іх рэзідэнцыяў у Драздах.**

У аўторак, 7 ліпеня, акрэдытаваныя ў Мінску пасольствы атрымалі рэзкую ноту ад беларускага міністэрства замежных справаў. У ёй беларускія ўлады запатрабавалі для сябе *«свабодны і пастаянны доступ»* у пасольскія памяшканні ў Драздах.

У ноце падкрэслівалася, што беларускі бок не гарантуе *«поўную захаванасць маёмасці пасольстваў»*. Злучаныя Штаты тут жа запрапанавалі прысылаць сваіх ахоўнікаў, на што Мінск не пагадзіўся. Атрымліваецца, што на тэрыторыі прэзідэнцкай рэзідэнцыі «Дразды» пасольскія рэчы могуць проста пакрасці. Беларускія ўлады строга загадалі *«на працягу 7-8 ліпеня вывезці рэчы з памяшканняў»*. Калі ж не — *«беларускі бок самастойна перавязе маёмасць паслоў і пасольстваў»*. Прадстаўнікі пасольстваў ФРГ, ЗША, Францыі і Расіі назвалі атрыманую ноту «ультыматумам».

Прэзідэнт Лукашэнка перадаў міністэрству замежных справаў паўнамоцтвы *«на вядзенне нармальнага перагаворнага працэсу з амбасадамі»*. Пра гэта ўчора на брыфінгу заявіў намеснік міністра замежных справаў Уладзімір Герасімовіч, якому прэзідэнт даручыў кіраваць спецыяльна створанай камісіяй па высяленні дыпламатаў. Былы начальнік упраўлення знешняй разведкі КДБ Герасімовіч збіраецца прымаць рашэнні «ў кантакце» з галоўным упраўленнем дзяржаўнай аховы, службай бяспекі прэзідэнта і ведамствам Ціцянкова.

Праўда, у сераду, 8 ліпеня, беларускія ўлады адумаліся і адклікалі сваю ноту, запрапанаваўшы пасольствам, якія маюць рэзідэнцыі ў Драздах, пачаць перамовы *«па ўсім комплексе пытанняў»*. У.Герасімовіч заявіў, што беларускія ўлады *«адмовіліся ад жорсткай пазіцыі і больш не прызначаюць канкрэтнага часу для высялення»*. Беларускі МЗС шукае новыя варыянты для размяшчэння пасольскіх рэзідэнцыяў, акрамя ўжо прапанаванага комплекса «Крылова» і дома ў Мінску на вуліцы Лодачнай. Па словах У.Герасімовіча, пасольства Францыі ўжо *«гатова канчаткова выехаць з Драздоў»*, калі беларускія ўлады знойдуць прымальны варыянт. Пасольства ФРГ пакіне Дразды, калі мінскія ўлады дадуць пляцоўку на вуліцы Старавіленскай — непадалёк ад будынка консульства.

ЗША на знос агароджы вакол амерыканскай рэзідэнцыі ў Драздах адказалі нотай пратэсту. Цяпер жа, па словах У.Герасімовіча, Злучаныя Штаты *«ўлічылі змяненне сітуацыі»* і *«гатовыя выехаць з Драздоў»*.

У саміх амбасадах не так шмат аптымізму. У пасольстве ФРГ паведамілі, што будуць чакаць далейшых крокаў беларускіх уладаў. А пасольства Францыі перайшло да контрмераў — адмовілася выдаць візу міністру знешнеэканамічных сувязяў Міхаілу Марынічу, які збіраўся 13 ліпеня паехаць у Лісабон на сусветную выставу «Экспа-98».

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Назад – у палату!

**Поўным правалам скончылася паездка ў Капенгаген групы дэпутатаў прэзідэнцкага нацсходу.**

Сесія Парламенцкай Асамблеі АБСЕ, якая гэтымі днямі праходзіць у сталіцы Даніі, большасцю галасоў пацвердзіла паўнамоцтвы беларускай дэлегацыі ад Вярхоўнага Савета 13-га склікання. Супраць гэтага рашэння прагаласавалі толькі прадстаўнікі Расіі і Казахстана. Парламентары з іншых краінаў СНД далучыліся да пазіцыі еўрапейскіх дэлегацыяў.

Нагадаем, што на гэты штогадовы форум з Беларусі паехалі дзве дэлегацыі: ад ВС на чале з Сямёнам Шарэцкім і нацсходу пад кіраўніцтвам Уладзіміра Канаплёва, паміж якімі разгарнулася сапраўдная барацьба за прадстаўнічае месца на Асамблеі. Дэлегацыя прэзідэнцкіх парламентарыяў з дапамогай дэпутатаў расійскай Дзярждумы спрабавала пераканаць мандатную камісію Асамблеі прызнаць яе ў якасці паўнапраўнага прадстаўніка ад Беларусі. Канаплёў аргументаваў пазіцыю сваёй дэлегацыі тым, што, маўляў, беларускі народ давярае менавіта нацсходу. Аднак заходнія парламентары больш прыслухаліся да аргументаў дэлегатаў ад ВС Анатоля Лябедзькі і Уладзіміра Нісцюка, а таксама жорсткай крытыкі беларускіх уладаў з боку прадстаўнікоў Літвы, Польшчы і Венгрыі.

У прынятай на сесіі спецыяльнай заяве па Беларусі адзначаецца, што АБСЕ лічыць створаны Аляксандрам Лукашэнкам парламент нелегітымным і не збіраецца прызнаваць яго паўнапраўным удзельнікам сваёй Асамблеі.

Сітуацыя з непрызнаннем дэлегацыі ад прэзідэнцкага парламента паўтараецца ўжо ў другі раз. Летась на сесію Парламенцкай асамблеі АБСЕ таксама прыязджалі дзве дэлегацыі з Беларусі, але «палатачных» дэпутатаў адправілі дадому.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**



*Сёння — знамянальная дата. Роўна чатыры гады таму Аляксандр Лукашэнка стаў прэзідэнтам Беларусі. Да гэтай даты нават Леніна памылі.*

## Салдаты могуць застацца без бялізны

У беларускай арміі не хапае грошай нават на адзенне. Як паведаміў намеснік начальніка рэчавай службы міністэрства абароны палкоўнік Пётр Сазонаў, выдзеленых сродкаў хопіць толькі на палявую форму. Афіцэры і прапаршчыкі могуць застацца без абутку, а салдаты — без бялізны. Тым не менш хапіла грошай на форму для ўдзельнікаў нядаўняга вайсковага парада. Салдатаў і афіцэраў, якія прайшлі па цэнтральнай плошчы Мінска, апранулі ў спецыяльна пашытыя бавоўняныя мундзіры, але пасля парада забралі. Гэтую форму вайсковае начальства плануе і далей выкарыстоўваць «па прызначэнні». Але ці не з'есць яе моль да наступнага парада?

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Даставай кашалёк

*Новыя кошты на тэлефон, гарэлку і каналізацыю*

Другая палова 1998 года пачалася з росту цэнаў. Як і паведамляла нашая газета, у пачатку ліпеня ўзраслі кошты на шэраг тавараў і паслуг. І гэта нягледзячы на тое, што ў плане спажывецкіх цэнаў традыцыйна лета лічыцца найбольш стабільным перыядам.

Так, з 1 ліпеня ўзраслі камунальныя тарыфы і кошты паслуг сувязі. Сярод камунальных плацяжоў заявіла пра сябе каналізацыя. Дзяржава вырашыла, што вялікія і маленькія натуральныя патрэбы беларусаў павінны каштаваць у 2,5 разы больш, чым раней. І гэта не адзіны за апошні час рост кватэрных коштаў. Зусім нядаўна падаражэла электраэнергія: адзін талон (100 кВт) цяпер каштуе 58.000 рублёў. Аматарам начных тэлеканалаў і чытання ў ложку давядзецца раскашэліцца.

Магчыма, зыходзячы з меншай важнасці патрэбаў у інфармацыі, аплата за радыёкропку вырасла не так моцна, як за каналізацыю. З 1 ліпеня яна каштуе 5.300 рублёў, а было 4.800. Тым не менш, на гэтым рост камунальных плацяжоў наўрад ці спыніцца. У наступным месяцы чакаецца павелічэнне аплаты за ваду.

На 10% павялічыўся кошт міжгародніх тэлефонных размоваў. Цяпер хвіліна тэлефанавання ў межах вобласці каштуе 1.100 рублёў, па рэспубліцы — 2.200 рублёў. Выраслі таксама і абаненцкая плата (26.600 рублёў), тарыфы на гарадскія размовы (80 рублёў). Таксама падаражэла адпраўка пісьмаў, паштовак, тэлеграмаў у межах краіны.

Чарговым «сюрпрызам» стаў рост коштаў на бензін і гарэлку. Кошты на бензін і дызельнае паліва ўзняліся на 10%. А пасля святкавання «дня рэспублікі» 6 ліпеня падаражэла гарэлка. Кожныя сто грамаў саракаградуснага алкаголю сталі каштаваць на 600 рублёў больш, чым раней.

**А.С.**

## Грыбнікоў і ягаднікаў абкладуць падаткам

**Маштабы нарыхтоўкі ягад і грыбоў пагражаюць беларускім лясам спусташэннем. Больш за 750 фізічных і юрыдычных асобаў зарабляюць грошы на лясных дарах. 109 камерцыйных фірмаў атрымалі ліцэнзіі на экспарт ягад і грыбоў за мяжу.**

Для многіх жыхароў Беларусі чарніцы і лісічкі сталі ў гэтыя дні асноўным сродкам папаўнення сямейнага бюджэту. За адзін кілаграм ягад даюць у мясцовым лясгасе каля 25 тысячаў рублёў. Аднак людзі стараюцца прадаць свой тавар у два разы даражэй перакупшчыкам, якіх можна сустрэць нават на лясной дарозе.

Натуральна, што кожны нарыхтоўшчык імкнецца сабраць чарніц ці лісічак як мага больш. Народныя ўмельцы прыдумалі для гэтага розныя прыстасаванні. Найбольш вядомая «грабёнка», нешта накшталт звычайных грабляў. Імі лёгка і хутка можна набраць не толькі ягад, але і грыбоў. Пра экалагічныя наступствы ніхто не дбае, бо лес, вобразна кажучы, лічыцца «народным дастаяннем».

### Галоўны экспарцёр

Галоўным экспарцёрам грыбоў і ягад за мяжу з'яўляецца ў нас прадпрыемства «БелЭК», заснаванае ўпраўленнем справамі прэзідэнта РБ.

Ведамства Івана Ціцянкова накіравала ва ўсе аблвыканкамы пісьмовае распараджэнне *«аб аказанні садзейнічання фірме «БелЭК»*. Вертыкаль абавязаная *«аказваць усялякую дапамогу»* ціцянкоўскім грыбнікам і ягаднікам. На справе гэта азначае, што «БелЭК» мае магчымасць займацца нарыхтоўкай дароў лесу ў найбольш ураджайных раёнах. Няма абмежаванняў і ў колькасці тон. Фактычна ўпраўленне справамі збывае праз «БелЭК» у Германію, Францыю, Галандыю, Чэхію і Расію сотні тон ягад і грыбоў. Бабулькі здаюць чарніцы за «зайчыкі», а ціцянкоўская фірма прадае за цвёрдую валюту.

Офіс фірмы «БелЭК» знаходзіцца ў цэнтры Мінска, але знайсці яго няпроста, бо няма ніякіх шыльдаў. «Мы не маем патрэбы ў рэкламе», — сказалі мне ў фірме. Супрацоўнікам не рэкамендуецца распаўсюджвацца пра сувязі з упраўленнем справамі прэзідэнта. «БелЭК» нарыхтоўвае ягады і грыбы па ўсёй Беларусі. Чарніцы купляюць у лясгасах і нарыхтоўчых кантор ах па 60—80 тысячаў рублёў, а ў Нямеччыне прадаюць па 3—7 марак. Сартыроўка ягад праводзіцца на замежным абсталяванні, абсякаюцца кончыкі і выдаляецца лісце. У распараджэнні фірмы 4 камбінаты, дзе ягады фасуюцца і замарожваюцца. Потым іх вязуць у замежныя краіны на выраб ёгуртаў, джэмаў, сокаў, а таксама ў рэстараны. Лісічкі пасля сартыроўкі соляць і прадаюць у тую ж Германію. Тавар карыстаецца вялікай папулярнасцю.

Супрацоўнікі «БелЭК» сцвярджаюць, што радыеактыўныя дары лесу не трапляюць на стол заходніх грамадзянаў, бо існуе дазіметрычны кантроль. Маўляў, прамытыя пасоленыя лісічкі ў пратачнай вадзе, можна пазбавіцца ад цэзію.

### Пакажы ліцэнзію!

Цяпер ва ўрадзе знаходзіцца праект пастановы Саўміна, якой прадугледжваецца ўвесці падатак на збор лясной прадукцыі. Для нарыхтоўшчыка грыбоў і ягад падатак складзе 5 працэнтаў ад закупачнага кошту. Мяркуецца ўвесці штодзённую норму — 30 кілаграмаў ягад і 20 кілаграмаў грыбоў на аднаго чалавека. Каб мець права назбіраць больш, трэба будзе набываць ліцэнзію. Мяркуецца забараніць збор дробных лісічак, дыяметр шляпкі якіх не дасягае паўтара сантыметра, а таксама няспелых чарніц, брусніц і журавін. Аматарам усялякіх тэхнічных прыстасаванняў пагражаюць штрафы.

Відавочна, што ад такой пастановы пацерпяць у першую чаргу звычайныя грамадзяне альбо «чаўнакі», якія вязуць лясны тавар у Расію, каб зарабіць на жыццё. А вось экспарцёры хутчэй толькі выйграюць. Як сцвярджаюць у «БелЭК», іхнія асноўныя канкурэнты — «чаўнакі».

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Прэзідэнт паедзе ў зону

**Плануецца, што ў сярэдзіне наступнага тыдня прэзідэнт Лукашэнка наведае Гомельскую вобласць.**

Як паведаміла прэзідэнцкая прэс-служба, ён наведае раёны, якія найбольш пацярпелі ад чарнобыльскай аварыі. У Гомелі А.Лукашэнка правядзе нараду аб выкананні дзяржаўнай праграмы па ліквідацыі наступстваў аварыі на ЧАЭС.

## Грамадоўцы збіраюцца ў вандроўку

**Дэлегацыя Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі вярнулася з Германіі, дзе брала ўдзел ва ўстаноўчым сходзе Камітэта салідарнасці з дэмакратычнай Беларуссю.**

Па словах лідэра Народнай Грамады Мікалая Статкевіча, аснову Камітэта складаюць нямецкія сацыял-дэмакраты, а ўзначаліў арганізацыю дэпутат бундэстага ФРГ Гюнтэр Ферхойген. Бліжэйшым часам да яе павінны далучыцца прадстаўнікі Швецыі, Даніі, Нідэрландаў і Аўстрыі.

Падчас сустрэчаў беларуская дэлегацыя абмяркоўвала таксама пытанні канкрэтнага супрацоўніцтва. Вынік — каля 30 пар беларускіх і нямецкіх гарадоў бліжэйшым часам абмяняюцца дэлегацыямі.

*БелаПАН*

## Цэмент і цэгла на базары

**Першы ў Беларусі рынак будаўнічых матэрыялаў адкрыецца ў мінскім мікраёне «Уручча» 24 ліпеня.**

Ужо сёння, 10 ліпеня, шэраг прадпрыемстваў і арганізацыяў пачнуць тут сваю працу. Рынак плошчай 9 гектараў размяшчаецца на тэрыторыі былой вайсковай часці і забяспечаны ўсімі неабходнымі інжынернымі камунікацыямі. Гандлёвыя павільёны, магазіны і склады размесцяцца ў будынках былых ваенных казармаў.

Дамовы з адміністрацыяй рынку заключылі каля 70 беларускіх прадпрыемстваў і арганізацыяў будаўнічай сферы. Цікавасць да працы на рынку праявілі таксама фірмы з Польшчы, Расіі, Грэцыі, Іспаніі, Турцыі. Апроч уласна будаўнічых матэрыялаў, на рынку плануецца арганізаваць продаж бытавой тэхнікі, ацяпляльнага і вентыляцыйнага абсталявання, сантэхнікі, мэблі і розных гаспадарчых тавараў. Будуць прадстаўлены таксама будаўніча-рамонтныя і праектна-дызайнерскія паслугі.

## Адвакат хацеў спаліць сябе

**У Наваполацку 8 ліпеня каля будынка гарадскога суда зрабіў спробу самаспалення адвакат Аляксей Філіпчанка.**

Ён удзельнічаў у судовым працэсе па справе пенсіянеркі Антаніны Воранавай, справу разглядала суддзя па адміністратыўных справах Ірына Сухоцкая. Да яе спрабуюць падсяліць яшчэ аднаго жыхара, і А.Воранава неадназразова звярталася ў розныя судовыя інстанцыі. Падчас суда кабеце стала дрэнна, і яе адвезлі ў бальніцу.

Адвакат А.Філіпчанка, які знаходзіўся ў вельмі ўзбуджаным стане, выйшаў з будынка суда, абліўся гаручай вадкасцю і падпаліў сябе. Супрацоўнікі міліцыі паспелі патушыць полымя. А.Філіпчанку ў непрытомным стане забрала хуткая дапамога.

*БелаПАН*

## Лепшым даяркам – веласіпед

**Светлагорскі малаказавод узнагародзіў веласіпедамі 10 лепшых даярак, якія здолелі выдаіць з кожнай каровы больш за чатыры тысячы літраў малака ў год.**

У калгасе «Прагрэс», дзе працуюць сем з дзесяці ўзнагароджаных даярак, падарункі былі ўручаныя адразу пасля ранішняй дойкі. Акрыленыя поспехам кабеты тут жа селі на ровары і паехалі па вёсцы — прадэманстраваць падарунак сваім сем'ям і суседзям.

**Д.Х.**

# Ліцэісты абараняюць сваю alma mater

**У Міхайлаўскім скверы Мінска вось ужо чацвёрты дзень запар стаяць у пікеце вучні Беларускага гуманітарнага ліцэя. *«Мы хочам вучыцца па-беларуску»* — напісана на адным з плакатаў.**

Ліцэісты і іхнія бацькі ўпэўненыя, што ў выніку запланаванай рэарганізацыі беларускі ліцэй можа быць ціха «пахаваны». Навошта? Колькі ўлады ні насаджаюць сярод моладзі ідэі славянскага братэрства, колькі ні культывуюць «любоў» да прэзідэнта ці пашану да чырвона-зялёнага сцяга, моладзь не паддаецца і пры зручным выпадку адкрыва ўсё тым жа: «Жыве Беларусь!» ды «Луку на муку!».

*«Рассаднікам такіх настрояў улада лічыць наш ліцэй, хаця мы тут палітыкай не займаемся, а проста вучым дзяцей ды выхоўваем іх на прыкладах чэснага служэння Бацькаўшчыне»*, — кажуць выкладчыкі ліцэя.

На думку бацькоў, мэта «рэарганізацыі» ліцэя заключаецца ў тым, каб звольніць «неблаганадзейных». *«На месцы нашых выкладчыкаў прыйдуць людзі, якіх урад падбярэ па сваіх прынцыпах. Мы ўпэўненыя, што сярод гэтых прынцыпаў не будзе адданасці беларускай мове і культуры. Між тым, мы хочам вучыцца толькі па-беларуску і толькі ў беларускамоўным асяроддзі»*, — заяўляюць пікетоўшчыкі.

Дарэчы, гэтае іх жаданне падтрымалі ўжо больш за шэсць тысяч мінчанаў — столькі подпісаў сабралі ліцэісты, стоячы ў пікетах. У наступны панядзелак яны зноў выйдуць на вуліцу з плакатамі.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Амерыка прыехала на аўтобусе

*У Гродне з'явіўся свой «кавалачак Злучаных Штатаў»*

Каля тэатра Тызенгаўза цяпер стаіць доўгі каляровы аўтобус з сапраўдным амерыканскім барам, побач пад паветкай — столікі, ігральны аўтамат, гучыць музыка. Незвычайны бар, трэба сказаць, прыцягвае публіку.

Прадстаўнікі кампаніі *Philip Morris*, тытунёвага і піўнога гіганта, такім чынам аб'язджаюць усе абласныя гарады Беларусі. Першым быў Брэст, цяпер — Гродна. У кожным горадзе перасоўны бар будзе працаваць каля тыдня. Як мудра патлумачылі мне прадстаўнікі кампаніі, мэтай мерапрыемства з'яўляецца «не рэклама, а заахвочванне пакупнікоў прадукцыі».

Курцоў у амерыканскім аўтобусе чакаюць прызы (праўда, зусім невялічкія ў параўнанні з даходамі фірмы). Варта паказаць пачак з-пад цыгарэт, і вы атрымаеце магчымасць выйграць на аўтамаце нешта з фірмовай сімволікай: напрыклад, запалкі, запальнічку, пластыкавы пакет, парасон альбо радыёнавушнікі. Некурцы таксама могуць наведаць бар, але ў розыгрышы прызоў яны не ўдзельнічаюць.

Аўтобус, які мае нью-йоркскія нумары, прыбыў са Швейцарыі. У экіпажы — два шафёры, тры афіцыянткі і тры ахоўнікі.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## «Гомеры» мусорных карьеров

Такое странное прозвище получили те, кто работает на свалках Минска. Многие из них живут здесь, здесь же умирают. И если ранее свалки были лишь пристанищем бомжей, то теперь контингент резко изменился.

Относиться к ним с пренебрежением, как к низшей касте общества — несправедливо. Они достойны большего уважения. Хотя бы за то, что не стоят в очереди за пособиями по безработице, не воруют, а наоборот, возвращают обществу ресурсы во вторичный оборот, а значит сохраняют богатства природы для будущих поколений. Только на минских свалках «гомеры» за год собирают около 25 тыс.тонн макулатуры, что позволяет сохранить 250 га леса от вырубки. И это не считая десятков тонн черных и цветных металлов, более 10 тыс.тонн тряпья и т.д.

# Одна большая

*Репортаж из удивительной страны, где мусорщики зарабатывают столько же, сколько президент*



Со свалки с добычей.

### Меню от президента

К слову сказать, выражение «очередь за пособием» применительно к Беларуси имеет лишь фигуральный смысл. Показатели официальной безработицы вот уже второй год подряд снижаются — но не столько потому, что выполняется давнее обещание Александра Лукашенко «запустить» все заводы, сколько потому, что в отношении безработных проводится совершенно особая политика. Пособие по безработице, в размере 8% от средней зарплаты, получают менее половины безработных при условии обязательного участия в организуемых для них «общественных работах». Допустим, весной и летом клиенту службы занятости необходимо отработать три дня в колхозе-совхозе, чтобы в итоге получить деньги, на которые нельзя купить даже 1 кг приличной колбасы.

Понятно, что на бирже регистрируются только те, у кого нет решительно никаких шансов на самостоятельное трудоустройство. Основная масса белорусских предприятий работает в режиме производственных собесов: работников запрещено увольнять (по крайней мере в массовом порядке), но их планомерно «выдавливают» разными способами, в том числе и низкими заработками. В президентском парламенте сейчас обсуждается проект закона о защите чести и достоинства главы государства, предусматривающий суровую ответственность за посягательство на первое лицо. Но наш очень умный (по закону) президент иногда произносит такое, от чего теряются всякие представления о том, кто есть кто и что есть что. Выступая недавно перед работниками МАЗа, Лукашенко заявил буквально следующее:

*«Нам демократия надо, когда человек работает, получает хоть какую-то зарплату, чтоб хлебушка купить, молочка, сметаны, творожку, иногда кусочек мяса, чтобы накормить ребенка и т. д.».*

Вот это «т. д.» уже 4 года белорусы слышат почти ежедневно. Из этой же серии и заявление президента о том, что его заработок составляет 14 млн. белорусских рублей (чуть больше 200 долларов). Эта игра в «нестяжательство», завораживающим образом действовавшая на широкую публику в период политического взлета Лукашенко, сегодня начинает обывателя раздражать.

Недавно в радиоотделе универмага в Борисове можно было наблюдать такую сценку. Старушка, обращаясь к изображению президента на экране шикарного телевизора, посетовала: «Красавчик ты наш. А вот пенсию так и не добавил». Старушке есть на что сетовать, поскольку ее пенсия (чуть выше 20 долларов) не позволяет рассчитывать даже на то скудное меню, с которым президент связывает свои представления о демократическом продминимуме.

И все же материальное положение пенсионеров, которые, как считают, и выбрали Лукашенко в президенты, во многом лучше, чем у работающих. В особенности это характерно для деревни, где заработки по размерам не превышают пенсий, но выплачиваются, в отличие от пенсий, крайне нерегулярно, преимущественно в период посевной и уборки, под которые колхозам выдаются государственные кредиты. Так что, имея «коровку и пару кабанчиков», пенсионеры живут гораздо лучше своих молодых соседей, успевших усвоить свойственное советской власти пренебрежение к собственному домашнему хозяйству, безразличие к колхозному и чаще всего очень сильно пьющих.

### Принудительная безысходность

Безусловно, многие на свалке тоже оказались не от хорошей жизни. Старушка, с которой мы разговорились на эту тему, сказала, что она не пришла бы сюда, если бы дочери не приходилось воспитывать ребенка в одиночку. Один из старожилов этих мест, который более десяти лет не только работает, но и живет здесь (после возвращения из мест заключения), ответил на этот вопрос еще проще: «А что делать? Жилья нет, на работу не возьмут. Воровать? Уже попробовал, хватит».

Мать троих детей, старшему из которых 21 год, очень гордилась трудовыми успехами своего сына, который за день зарабатывает на свалке до 10 долларов в день. Таким сыном, действительно, можно гордиться, ведь если подсчитать его месячный доход, то он такой же, как и официальный доход президента Александра Лукашенко.

### Бомжи столкнулись с конкуренцией

Пост президента у нас один, а людей голодных неизмеримо больше. И если ранее свалки были лишь пристанищем бомжей, то теперь контингент резко изменился. Сюда приезжают из Минска люди, имеющие квартиры, но потерявшие работу. На самой крупной Северной свалке Минска ежедневно работает до 250-300 человек.

Их притягивает сюда, естественно, не изнурительный труд, а то, что за этот труд можно тут же получить расчет. Второе обстоятельство: свободный режим (можешь вообще не работать) и интенсивность работы — каждый зарабатывает столько, сколько может: от 1 до 10 долларов в день.

### Дети гибнут за...

На свалке принято работать семьями либо «тройками». При разделении труда можно больше заработать каждому из участников. Удивило также и то, что более половины — молодежь, много детей, в том числе и беспризорных. Они чаще всего и оказываются невинными жертвами борьбы «за место под

# Пошукі моды

## *Дзе купіць сабе прыгожае адзенне?*

**Прадаўцы стандартнага адзення, што гандлююць на шматлікіх рынках і базарчыках, імкнуцца зрабіць беларусаў аднолькавымі на выгляд. Аднак маладыя людзі навучыліся гэтаму супраціўляцца.**

Яшчэ некалькі гадоў таму публіка на вуліцах нечым нагадвала кадры кінахронікі з жыцця Кітайскай Народнай Рэспублікі або савецкай арміі. Усе выглядалі на адзін капыл: настолькі папулярныя былі турэцкія швэдры, лінялыя джынсы невядомай вытворчасці, блішчастыя спартыўныя касцюмы і красоўкі са скуразамяняльніка. Але, нягледзячы на агульнае падзенне ўзроўню жыцця, сітуацыя цяпер змянілася. Людзі, перш за ўсё рэдкія прадстаўнікі беларускага сярэдняга класа і тыя, хто на гэтае званне прэтэндуюць, аддаюць усё больш увагі таму, каб быць непадобнымі адзін на аднаго. Пошукі ідуць у некалькіх накірунках.

### На базары і ў салоне

Вядома, што асартымент у нашых крамах, асабліва ў правінцыі, небагаты. Рэчы, якімі там гандлююць, часта далёкія ад моды, не вызначаюцца якасцю і тым больш не прэтэндуюць на арыгінальнасць. Калі рэч хоць неяк выбіваецца з агульнай шэрасці і вы набылі яе ўчора, то заўтра тое ж будуць насіць яшчэ дзесяткі, а то і сотні людзей з добрым густам: няма выбару. Яшчэ часцей гэтая сумная гісторыя адбываецца з наведвальнікамі рынкаў, накшталт «Дынама».

Канечне, можна шукаць арыгінальныя рэчы ў буціках, мінісалонах моднага адзення. Але кошты ў гэтых «прадпрыемствах гандлю» выглядаюць яшчэ больш арыгінальнымі і не выклікаюць ніякага захаплення.

Іншае становішча з так званым «адзеннем для сярэдняга класа». Гэта звычайна не вельмі дарагая (па заходніх мерках) прадукцыя фірмаў з раскручанай гандлёвай маркай. Напрыклад, лозунг фірмы «Штайльман» гучыць: «Адзенне не для мільянераў, а для мільёнаў». Развіццё сярэдняга класа на Захадзе — людзей са стабільнымі і дастаткова высокімі даходамі — абумовіла з'яўленне не вельмі дарагога, якаснага і моднага адзення. Беларусь жа яшчэ знаходзіцца якраз у тым стане, калі высокая якасць і мода даступныя толькі багатым. Фірмовая прадукцыя ў Беларусі прадстаўленая вельмі бедна.

### Купі штаны ў кніжцы

З азначаных праблемаў людзі выбіраюцца рознымі шляхамі. Тыя, хто мае больш-менш прыстойны даход, часта апранаюцца за мяжой. Некаторыя маладыя людзі нават спецыяльна выязджаюць за межы заваленай турэцкім, польскім і беларускім адзеннем радзімы, каб набыць сабе абутак ці вопратку. Сярод знаёмай мне моладзі найбольш папулярныя паездкі пры выпадку ў Маскву і Польшчу, а самыя пераборлівыя кіруюцца ў Прагу і Заходнюю Еўропу.

Адносна заможныя людзі нярэдка купляюць сабе добрае заходняе адзенне праз каталогі накшталт *Otto*, *Quelle* і г.д. У Мінску і некаторых іншых буйных гарадах ёсць магчымасць замовіць тавары з каталогаў: гэтым бізнесам займаюцца прыватныя фірмы. Але каштуе такая паслуга даволі дорага — за дастаўку «здымаюць» не менш як 30% ад кошту самой рэчы. Да таго ж плаціць трэба наперад, а ехаць у Беларусь выбраная рэч можа тыдні тры-чатыры, а то і болей. Але не выключана, што на гэтым сюрпрызы не скончацца: атрыманая рэч можа быць не таго колеру, памеру дый выглядаць зусім не так прывабна, як у каталогу.

### Пінжак з чужога пляча

Вядома ж, большасць студэнтаў і іншых людзей, якія маюць прэтэнзіі да свайго выгляду, але не маюць тоўстага кашалька, не могуць пастаянна катацца ў замежжа ці купляць што-небудзь праз каталогі. Апошнім часам сярод не вельмі багатай і незакамплексаванай моладзі з'явілася новая мода. Пошук фірмовых рэчаў пачынаецца не са шпацыру па звычайных крамах, а з наведвання магазінаў тыпу «сэканд-хэнд».

Натуральна, многія рэчы ў «сэкандах» далёкія ад свайго першапачатковага выгляду. Аднак у такія крамы трапляюць з Захаду і тавары, што засталіся пасля сезонных распродажаў, банкроцтваў крамаў, і рэчы з нязначным, часам нават зусім незаўважным бракам.

Выгада — відавочная. Напрыклад, кошт фірмовых расклёшаных джынсаў *Lee* ў краме «сэканд-хэнд» можа скласці недзе 200 тысячаў рублёў. Заўважце, што ў Мінску выробленыя ў Амерыцы новыя джынсы можна набыць не танней як за долараў 70-80.



Праўда, не кожны «сэканд» мае добры асартымент тавараў, прынамсі ў Мінску. Каб адшукаць больш-менш цікавую рэч, часта трэба перагарнуць горы сапраўднага барахла. Зрэшты, некаторыя «сэканды» спецыялізуюцца на пэўным тавары. Напрыклад, у адной краме ў сталічным раёне Зялёны Луг знаўцы рэкамендуюць шукаць скураныя рэчы, у другой — маладзёжную вопратку спартовага стылю. Своеасаблівым цэнтрам «сэкандсэрфінгу» называюць рынак у Ждановічах, дзе прадпрымальнікі, у якіх не хапае грошай на ўтрыманне сваёй крамы, арганізавалі нешта накшталт невялікай барахолкі з сэканд-хэндавага тавару.

Увогуле ж, мода на адзенне з «сэканда» — зусім не беларуская з'ява. Узнікла яна даволі даўно ў асяроддзі заходняй моладзі і несла на сабе яшчэ і адценне пэўнага сацыяльнага пратэсту супраць «тлустай буржуазіі». І да сённяшняга дня некаторыя замежныя зоркі не грэбуюць крамамі ўжыванага адзення: у гэтым ёсць пэўны стыль.

### Пачакаем

Тым не менш, адным «сэкандам» сыты не будзеш. Таму застаецца чакаць, калі ў Беларусі складзецца рынак якаснага, моднага і недарагога адзення.

**Алесь САДОЎСКІ**

# свалка



*Попавшему сюда уже трудно вырваться из этого круга.*

солнцем». Машины никто не делит на «свои» и «чужие», поэтому все стараются быть как можно ближе к контейнеру мусоровоза, еще до полной остановки и выгрузки машины. В пылу этой толчеи дети и попадают под колеса. Здесь, на свалке, их и хоронят.

### Свободные рабы

Похоже, что подобные места обладают особым магнетизмом: попавшему сюда уже трудно вырваться из этого круга. К ежедневным расчетам привыкаешь как к наркотику. Для алкоголиков это место, наверно, вообще представляется раем. Сдал — выпил, сдал — выпил... И так до отключки. Но таких здесь не много.

Те, кто живет на свалке постоянно, заказывают в основном продукты, которые им привозят водители (магазина поблизости нет). Как нет и элементарных навесов, под которыми можно было бы переждать непогоду, их установку запрещают санитарные службы. Те же жилища, которые они возводят сами, периодически сносятся бульдозерами. Вообще, работающие здесь представляют идеальную рабочую силу: они ничего не могут потребовать. Удивительно, но такое положение их не угнетает. Зимой, живущие здесь постоянно, становятся черными от копоти сжигаемых для согрева автомобильных покрышек. Слава Богу, что хоть питьевую воду завозят сюда регулярно.

### Почти по Марксу

В нашей стране сложилась парадоксальная ситуация, когда личную свободу и независимость не гарантирует ничто: ни закон, ни материальное благополучие. Скажем, люди, работающие на свалках, лишены свободы выбора, так как отсутствуют какие-либо материальные ресурсы для того, чтобы найти более привлекательное рабочее место.

Но и тот, кто материально обеспечен, тоже не защищен от противозаконных действий. Причем, одинаково легко может быть экспроприирована как личная свобода, так и капитал. Лучшей иллюстрацией здесь могут служить последние события, связанные с арестом предпринимателя и депутата разогнанного парламента Андрея Климова, а также попытки властей репатриировать на родину из Польши другого известного предпринимателя — Александра Пупейко, президента фирмы «Пуше».

Можно вспомнить и совсем недавние события, когда по указу президента РБ был национализирован минский футбольный клуб «Динамо», который до этого являлся акционерным обществом. Поводом для экспроприации послужила пятимесячная задержка выплаты заработной платы игрокам команды. Столь пламенная защита первым лицом государства интересов малоизвестных футболистов (все сколь-нибудь известные выступают за рубежом) трогает душу, но споры, связанные с неисполнением контрактных обязательств, в демократических странах решаются в судебном порядке, а не противозаконными методами.

Ладно, всякие там права для наших властей ткань почти эфемерная (президент считает, что у нас прав больше, чем где), но смущает отсутствие целесообразности как в тех решениях, которые вынашиваются долгие месяцы, так и скоропалительных, принимаемых под горячую руку. В случае с футболистами, например, (две команды «Динамо» и «Динамо-93» переданы соответственно на баланс Минского городского и Минского областного исполкомов) можно совершенно определенно сказать, что президентская затея существенно «облегчит» местные бюджеты. И это при том, что, например, в минских больницах часто нет лекарств, постельного белья, а пациенты вынуждены самостоятельно организовывать собственное питание.

**Александр ГАЛЬКЕВИЧ, Константин СКУРАТОВИЧ**

# Украіна грыўну не прымае?

**Нацбанк Украіны днямі прыслаў шэфу галоўнага банка Беларусі Пятру Пракаповічу ліст аб новых умовах абароту ўкраінскай грыўны. Цяпер беларусы не маюць права ехаць на Украіну са сваімі грыўнамі.**

У лісце тлумачыцца, што грыўны, якія мытнікі знойдуць у кішэнях і кашальках беларусаў, падлягаюць канфіскацыі. Гэтае рашэнне Украіны ўскладняе жыццё многім грамадзянам Беларусі — камандзіраваным, камерсантам, вандроўнікам і г.д. У такой сітуацыі тым, хто збіраецца наведаць краіну-суседку, рэкамендуецца набываць толькі свабодна канверсаваную валюту. Але дзе яе купіць?

**Святлана БЕРАСТУН**

# Так хочацца шчасця...

**Каля трыльёна рублёў пералічылі жыхары нашай краіны фірме «Бума ЛЛЦ» за ўдзел у «бяспройгрышнай латарэі». А высветлілася, што дарма гулялі.**

Як паведаміла Магілёўскае таварыства абароны спажыўцоў, толькі ў Магілёўскай вобласці 1.258 чалавек даслалі на адрас фірмы свае грошы. Як стала вядома пазней, да людзей прыходзілі аднолькавыя лісты, у якіх паведамлялася: «Вы валодаеце шчаслівым сакрэтным нумарам». Ён абяцаў аматарам латарэйнага пошуку шчасця аўтамабіль замежнай вытворчасці. Але каб нумар прынёс выйгрыш, трэба даслаць яшчэ 500.000 рублёў. І дасылалі, нават цэлымі сем'ямі. А чаканых прызоў так і не атрымалі.

Ужо колькі разоў піраміды кшталту расійскай МММ падманвалі сваіх кліентаў. Але ж людзям так хочацца выйграць... Апытаныя таварыствам спажыўцоў людзі засведчылі, што яны хацелі хоць неяк паправіць сваё жабрацкае існаванне.

**Іван ЗАСАДА**

# Западный ветер

*Из цикла «Частное мнение гражданина Старикевича»*



В предыдущей статье цикла речь шла о роли России в судьбе белорусской демократии. Не менее актуальной, особенно в свете последних событий, представляется тема участия Запада в процессах, определяющих будущее нашей страны.

Так уж исторически сложилось, что одни демонизируют образ Запада, связывая с ним все несчастья, свалившиеся на наши головы; другие, напротив, обожествляют «цивилизованный мир», который несет на белорусскую землю идеалы демократии. Оба стереотипа одинаково далеки от реальности, но тем не менее на редкость живучи. Более того, зачастую исходя из них пытаются строить свои отношения с Западом белорусские политики. В частности, оппозиция, ищущая там точку опоры.

После референдума 1996 года поездки в Европу для некоторых противников президента стали чем-то вроде языческого ритуала. В западных столицах с сочувствием выслушивали сообщения о бесчинствах диктатуры Лукашенко и выражали солидарность с борцами против тоталитаризма. Хотя нужно было иметь богатое воображение, чтобы представить себе того же Семена Шарецкого в облике законченного приверженца демократических ценностей. Спикер, еще несколько лет назад баловавшийся изысканиями относительно протоколов сионских мудрецов, как-то уж очень оперативно сменил и лексику, и идеологию. На это мелкое недоразумение все закрывали глаза, поскольку Запад действительно без всякого удовольствия наблюдал за процессами, разворачивающимися в Беларуси. Лукашенко ему не симпатичен по определению, и потому надежды на перспективу связывались с оппонентами президента. От них ждали конкретных действий и результатов. Но не тут-то было. Наши политики из числа противников президента привыкли искренне обижаться практически на любую критику в свой адрес. «Как же так? — говорят они. — Мы же не поступились совестью, не пошли в услужение режиму, и вообще находимся в оппозиции. И нас за это независимая пресса мордой об асфальт?»

Это чистосердечное недоумение и является ключом к пониманию их поведения. Может быть когда-нибудь и придут времена, в кои за одно нахождение в оппозиции Лукашенко будут платить пенсию, а ветеранов демократического движения станут приглашать по праздникам в школы, чтобы послушать их рассказы о боевом прошлом и напоить стаканом чая с печеньем. Но для того, чтобы это светлое будущее наступило, недостаточно просто обозначать личное несогласие с политикой президента. Его нужно обыграть, побороть, убрать с арены.

Как раз этого от белорусской оппозиции и ожидал Запад. В свою очередь, противники Лукашенко ждали, что Запад сделает это за них. По крайней мере, только так можно объяснить их клиническую безынициативность на протяжении последних полутора лет. За это время Европе успели изрядно поднадоесть рассказы о зверствах режима, как надоедают любые длительные повествования о чужих бедах. На Западе составили собственное представление о том, чего стоят лидеры белорусской оппозиции, и нельзя сказать, чтобы это мнение было сильно лестным.

Один из первых тревожных звонков прозвучал, когда состоялась встреча Лукашенко с кандидатом на пост канцлера Германии от социал-демократов Шредером. Все последовавшие объяснения, что это рандеву состоялось по просьбе крупных немецких компаний, могли послужить не столько утешением, сколько поводом для еще большего беспокойства.

*«Посольский скандал» был инспирирован Россией. Такую версию подбрасывают инициаторы конфликта.*

В замечательной книге русского диссидента Владимира Буковского «Московский процесс» я отыскал документ почти четвертьвековой давности, странным образом перекликающийся с сегодняшним днем. Это доклад Андропова о контактах источника КГБ с директором концерна Круппа графом фон Арнимом. По словам последнего, являвшегося помимо всего прочего доверенным лицом лидера СДПГ Бара, в промышленных кругах ФРГ существуют силы, готовые способствовать нормализации отношений с СССР. В связи с этим Бар считал бы желательным провести серию неофициальных переговоров с представителем СССР. При этом добавлялось, что наиболее здравомыслящие деятели СДПГ пришли к выводу о необходимости поисков других путей «восточной политики» и хотели бы наладить прямые и надежные каналы связи с Москвой.

Очередным свидетельством «поисков других путей» стало выступление в Брюсселе руководителя миссии ОБСЕ, работающей в Минске. И хотя впоследствии Ханс-Георг Вик в интервью «Белорусской газете» заявил, что ничего не говорил о необходимости принятия Западом конституции 1996 года и вообще существующего положения дел в Беларуси, подобное отречение можно отнести к разряду дипломатических финтов. Тем более, не является секретом разочарование, постигшее некоторых западных политиков в связи с тем, что изоляция Беларуси не дала существенных результатов. Отсюда и желание испробовать иные подходы к ситуации.

Буковский в вышеупомянутой книге развенчивает миф о том, что идеалы демократии являются для Запада незыблемым приоритетом. Он пишет и о «целенаправленной политике обеспечения стабильности в мире, стабильности любой ценой, даже ценой предательства» и об «армии профессиональных дипломатов, для которых главная задача в жизни — улучшение отношений (пусть хоть с дьяволом)». Его выводы обретают для нас тревожную актуальность.

Очевидно, что прагматичный Запад в последнее время искал новые пути для реализации своих интересов в Беларуси. И если в конце концов выяснилось бы, что единственный, с кем здесь можно иметь дело, это Лукашенко, то европейская оттепель для его режима неминуемо бы наступила. Но Запад нарвался на то, на что и должен был нарваться. Так любая попытка интеллигента подружиться с деревенским бандюком заканчивается тем, что тот вырывает штакетину из забора и гоняет очкарика по всей округе. «Посольский скандал», когда в роли пострадавших оказались не рядовые граждане Беларуси, а главы дипломатических миссий крупнейших государств мира, забудут не скоро. «Миротворцам», в качестве платы за услуги получавшим картины Шагала, придется забыть о своей миссии. «Взамен любви — сплошной обман, не получился наш роман». Но еще не известно, кто выйдет победителем в обострившемся противостоянии.

Главная проблема Запада заключается в том, что, определяя свою политическую линию в отношении Беларуси, он исходит исключительно из собственных представлений о политике, экономике и т.д. Поэтому, рекомендуя абстрактно правильные вещи, но не адаптированные к местной ситуации, Европа будет неминуемо терпеть неудачи. Лучше всего это можно объяснить на примере, к счастью, пока несостоявшихся местных выборов. В чью-то голову пришла мысль распространить западный опыт изготовления политиков на Беларусь. Там ведь зачастую будущий сенатор или даже президент начинает с каких-нибудь выборов в муниципальный совет и затем ступенька за ступенькой подымается до того уровня, который является его потолком. Отсюда следует вывод, что так должно быть везде.

Когда эту идею подкинули белорусским партийным функционерам, те, будучи не в состоянии придумать что-либо более элегантное и трясясь от страха ввиду перспективы окончательно утратить расположение Запада, предпочли согласиться. И теперь объясняют всем несмышленым, что любые выборы есть благо, поскольку это шанс на появление новой генерации политиков, а свежие силы белорусской демократии сейчас просто необходимы. На самом деле единственным результатом участия оппозиции в таких выборах станет фактическое признание конституции 1996 года. Надежды же на то, что избирательная кампания в сельсовет даст себя проявить еще незасвеченным людям, абсолютно беспочвенны.

Местные выборы у нас всегда существовали как приложение к парламентским и даже проводились зачастую в один день, чтобы хоть как-то привлечь население к процессу голосования. Какие уж тут возможности для раскрутки новых политиков. Про роль таких органов власти в нынешней государственной системе вообще лучше не заикаться.

Для Запада, судя по всему, до сих пор является загадкой, почему его послов выставили из Дроздов. Отсюда рождаются умопомрачительные версии о том, что все это затеяно Лукашенко, чтобы... убрать Титенкова. Европейскому сознанию трудно усвоить мысль о том, что всему виной, с одной стороны, многочисленные комплексы президента, порожденные его тяжелым детством, которые он теперь вымещает на всех, кто под руку попадется, а с другой — маниакальное желание стать хозяином Кремля. Предвыборная кампания Лукашенко в России давно началась, и победа над Западом станет хорошим козырем. Уже более или менее ясно, как он собирается этого достичь. Внешне белорусский президент будет суров и непреклонен перед «диктатом так называемого цивилизованного мира». Он привык стоять на своем до конца, и такая нехитрая тактика принесла ему успех в «деле ОРТ». Лукашенко, несмотря на все стенания прогрессивной общественности и рыки Кремля, гнул свою линию и дождался-таки момента, когда Москве вся эта канитель надоела. В результате при ее молчаливом согласии последовало осуждение Шеремета и Завадского, что собственно и требовалось доказать. Так и сейчас. «Куда они денутся, эти послы? — рассуждает нынешний хозяин Дроздов. — Вернутся, как миленькие».

Объективно у Лукашенко достаточно выгодные позиции. Любой компромисс будет выглядеть как его победа, потому что дипломатические демарши все забудут на следующий день, а то, что Лукашенко все-таки выселил послов из Дроздов, будут помнить долго. «Крутой мужик!» — скажет большинство российских избирателей. Но для того, чтобы победа была чистой, необходимо, чтобы послы в Беларусь все-таки вернулись и тихо съехали на предложенные им квартиры. Поэтому помощники Лукашенко занимаются сейчас гораздо более тонкой работой.

В президентской администрации разработана не лишенная изящества комбинация, которая должна склонить дипломатов к возвращению. Согласно версии, которую уже начали скармливать всем интересующимся, «посольский скандал» был инспирирован Россией, которая намеревается добиться полной политической изоляции Беларуси, чтобы затем торговать через нее оружием в «горячие точки». По идее Запад, «раскусив коварный замысел Москвы», должен воспрепятствовать его реализации даже ценой возвращения собственных послов по принципу выбора наименьшего из зол. И тогда Лукашенко может даже позволить себе роскошь согласиться на минимальные уступки, особенно те, которые останутся «за кадром».

*Запад пока не понял, что против него играют по правилам «холодной войны»*

В этом плане существует только одно слабое место. Россия уже несколько лет торгует чем попало через Беларусь, и отсутствие международной изоляции последней вовсе не является препятствием для этого. Так что, мотивация, как говорится, хромает. Но можно придумать что-нибудь более убедительное, например, про создание необходимых условий для поглощения Россией Беларуси. Доверчивая Европа вполне может купиться на такую дезинформацию.

Запад пока не понял, что против него играют по правилам «холодной войны». Отсюда и недоумения по поводу «нерационального» поведения Лукашенко. Но тактика белорусского президента вполне адекватна сделанным ставкам. В России хватает претендентов на престол, но в большинстве своем они могут предъявить достаточно скромный политический скарб. У того же Зюганова за душой лишь уже проигранные однажды президентские выборы да имитации попыток объявить импичмент Ельцину. Недалеко ушли и остальные кандидаты в «отцы нации».

Российский избиратель уже накушался предвыборных обещаний, и потому, чтобы обеспечить себе успех, нужно чем-то выделяться среди других политиков. Лукашенко выступает с очень выгодных позиций. Он говорит о «реальных достижениях», полученных им в Беларуси: регулярной выплате зарплат и пенсий, росте ВВП, социальной справедливости и прочая. Подавляющее большинство россиян никогда не будет выяснять природу этих чудес — как-то нищенскую, даже по российским меркам, зарплату, производство никому не нужной неконкурентоспособной продукции, установление максимальной зависимости человека от государства, а вернее, от группы лиц, им управляющих.

Но для полноты впечатлений Лукашенко желает продемонстрировать свой боевой дух. Не секрет, что идеология реванша достаточно глубоко проникла в подсознание многих россиян. Ну не могут они сами, такие славные и замечательные, быть виноваты в собственных бедах, начиная от экономического кризиса и заканчивая неудачами футбольной сборной. Должен существовать какой-то враг-вредитель, который мешает им нормально жить. Толпа политических заклинателей с радостью указывает им на Запад. Но одно дело обозначить противника, и другое нанести ему пусть локальное, но поражение. Кроме того, Лукашенко исполняет сейчас функции мелкого задиры, призванного проверить на «вшивость» потенциального противника. Если тот не отреагирует на мелкие тычки достаточно увесистой оплеухой, это будет расценено как признак слабости. И тогда у очень многих в России появится соблазн ввязаться в серьезную драку. В этом случае второе издание полноценной холодной войны становится вполне реальным.

Шансы белорусского президента на успех в нынешнем противостоянии достаточно велики, главным образом, потому, что на Западе его до сих пор не воспринимают всерьез. Проще всего, назвать Лукашенко «посмешищем мира», как это было в Кран-Монтане. Когда-то многие в Беларуси тоже смеялись над «неотесанным колхозником». Мы уже дорого заплатили за собственное легкомыслие. Западу это еще предстоит.

**Александр СТАРИКЕВИЧ**

 



# Што каштуе наша праца?

Каб купіць звычайны мужчынскі касцюм, сярэднестатыстычнаму беларусу трэба працаваць больш за два тыдні

Як параўнаць сярэдні ўзровень жыцця беларуса, расіяніна, паляка і аўстрыйца? У адной краіне людзі атрымліваюць высокія заробкі, але ж і цэны там высокія. У нейкай іншай на 50 долараў у месяц можна забяспечыць сабе прыстойнае існаванне, бо тавары каштуюць вельмі танна. І таму нельга меркаваць толькі па велічыні заробкаў.

Каб скласці рэальнае ўяўленне пра ўзровень жыцця ў розных краінах, можна параўнаць: колькі сярэдні работнік мусіць працаваць, каб набыць той самы тавар.

У табліцы, змешчанай ніжэй, пералічаныя тавары з гэтак званага «спажывецкага кошыка» ў некаторых краінах Усходняй Еўропы — Балгарыі, Польшчы, Венгрыі, Расіі, Украіне, а таксама ў Аўстрыі. Яны ацэньваюцца паводле таго, колькі павінен працаваць чалавек, каб купіць гэты тавар. Каб супаставіць іхні жыццёвы ўзровень з нашым, карэспандэнт прайшоўся па беларускіх крамах, а потым падлічыў кошт беларускіх тавараў у гадзінах працы. Нагадаем, што на сённяшні дзень сярэдні месячны заробак у Беларусі складае 4.085.679 рублёў — эквівалент 172.2 гадзінаў працы.

| ТАВАРЫ І ПАСЛУГІ | АЎСТРЫЯ | БАЛГАРЫЯ | ПОЛЬШЧА | ВЕНГРЫЯ | РАСІЯ | УКРАІНА | БЕЛАРУСЬ |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Малако (1 л) | 3хв18с | 31хв11с | 13хв6с | 12хв54с | 35хв8с | 59хв12с | 1г3хв |
| Хлеб белы (1 кг) | 3хв7с | 24хв | 8хв42с | 15хв25с | 52хв42с | 39хв28с | 45хв31с |
| Булочка | 42с | – | 1хв35с | 1хв26с | 5хв15с | 11хв50с | 7хв35с |
| Бульба (1 кг) | 1хв53с | 18хв | 2хв53с | 6хв13с | 23хв42с | 23хв40с | 1г28хв |
| Масла (250 г) | 6хв27с | 1г2хв | 18хв47с | 28хв2с | 57хв5с | 39хв20с | 1г3хв |
| Кава (250 г) | 7хв39с | 1г14хв | 46хв58с | 1г9хв | 2г57хв | 3г16хв | 10г38хв |
| Біфштэкс (1 кг) | 30хв36с | 5г30хв | 1г40хв | 1г59хв | 3г57хв | 4г36хв | 11г55хв |
| Выцінка (1 кг) | 23хв15с | 6г7хв | 1г55хв | 2г9хв | 4г41хв | 5г58хв | 7г35хв |
| Абед з 3 страваў у сярэднім рэстаране | 1г7хв | 8г20хв | 3г36хв | 1г55хв | 32г12хв | 26г18хв | 14г45хв |
| Пачак цыгарэтаў. Marlboro | 12хв14с | 1г14хв | 28хв | 38хв | 52хв | 1г26хв | 2г19хв |
| Пачак айчынных цыгарэтаў | 9г47хв | 29хв | 18хв | 22хв | 22хв | 27хв | 1г6хв |
| Бутэлька піва | 2хв45с | 26хв | 15хв54с | 10хв28с | 32хв29с | 39хв25с | 39хв27с |
| Жаночая сукенка айчыннай вытворчасці | 9г7хв | 50г35хв | 24г5хв | 49г14хв | 73г10хв | 46г18хв | 113г48с |
| Мужчынскі строй айчыннай вытворчасці | 18г14хв | 68г55хв | 42г9хв | 65г32хв | 87г49хв | 62г38хв | 92г43хв |
| Мужчынскія чаравікі | 4г4хв | 34г28хв | 9г38хв | 21г24хв | 35г35хв | 32г54хв | 50г34хв |
| Электраэнергія (кВт/г) | 1хв31с | 2хв18с | 5хв12с | 2хв34с | 1хв35с | 2хв21с | 1хв28с |
| Газ (1 куб.м.) | 1хв40с | 8хв46с | 1хв39с | 4хв37с | 1хв19с | 3хв54с | 4хв30с |
| Цэгла (1 шт) | 1хв40с | 4хв35с | 1хв50с | 3хв56с | 13хв10с | 5хв53с | 5хв3с |
| Цэмент (100 кг) | 43хв28с | 7г20хв | 1г55хв | 3г25хв | 8г46хв | 12г10хв | 8г25хв |
| Бензін (1 л) | 3хв38с | 36хв41с | 13хв55с | 23хв9с | 21хв57с | 27хв37с | 31хв36с |
| Хімчыстка | 42хв | 3г51хв | 2г2хв | 2г12хв | 8г46хв | 6г30хв | 5г56хв |
| Квіток на цягнік (2 клас, 100 км) | 39хв | 44хв | 1г35хв | 1г16хв | 2г5хв | 2г18хв | 2г57хв |
| Рамонт вода- і газаправода (1 гадзіна працы) | 4г5хв | 2г26хв | 3г36хв | 4г58хв | 2г5хв | 13г9хв | – |

***У табліцы выкарыстаныя дадзеныя Міжнароднага цэнтра перспектыўных даследаванняў.***

Параўнанне не цешыць. Атрымліваецца, што нават гэтак званыя «сацыяльныя» прадукты — хлеб і малако, якія ў Беларусі істотна датуюцца дзяржавай, — у Аўстрыі, Польшчы або Венгрыі каштуюць танней. Сярэднястатыстычнаму беларусу трэба працаваць больш за гадзіну, каб набыць літр малака і кілаграм белага хлеба.

Не лепей выглядае становішча з «другім хлебам» — бульбай. Калі аўстрыец заробіць на кілаграм бульбы меней чым за дзве хвіліны, а сусед-паляк — за тры, то беларусу даводзіцца працаваць амаль паўтары гадзіны.

У савецкія часы быў жарт, што самы дарагі аўтамабіль — гэта «Запарожац», бо на яго збіралі грошы ўсё жыццё. Кіруючыся такім прынцыпам, атрымліваецца, што самы дарагі мужчынскі гарнітур — беларускай вытворчасці, бо каштуе 92 гадзіны працы, альбо каля 12 працоўных дзён. (Не забывайцеся, што за ўсе гэтыя 12 дзён нельга набыць больш нічога, а толькі адкладваць грошы.) Гэтаксама і беларуская сукенка каштуе нашмат даражэй за іншаземныя. Танная ў нас толькі электрычнасць, дый то таму, што дагэтуль мы набываем яе па ільготных коштах.

Не трэба быць вялікім спецыялістам у эканоміцы, каб зразумець, што ў параўнанні з іншымі еўрапейскімі краінамі жыхары Беларусі атрымліваюць проста жабрацкія грошы. Нягледзячы на гэта, афіцыйная прапаганда радасна паведамляе, што сярэдні заробак прыкладна ў 70 долараў — вельмі высокі, дый плацяць яго без затрымак.

Але цікава было б паглядзець, як бы ў самога Аляксандра Рыгоравіча атрымалася хаця б месяц пажыць на 70 долараў у нашай не самай таннай краіне.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**



# Святое дело

## *Началась борьба за новый источник сверхприбылей*

Бывает, сама история дарит смекалистым и умелым их шанс. Когда-то сумасшедшие деньги делались на ваучерных фондах, финансовых «пирамидах», челночном импорте, таможенных льготах и других столь же скользких предприятиях. Но теперь судьба посылает такую уникальную жилу для заработка, как 2000-летие Рождества Христова. Грех пропустить.

В советские времена паломничество верующих из СССР во Святую Землю было жестко лимитировано. Совет по делам религий аккуратно оформлял совместно с Отделом внешних церковных сношений Московского патриархата (ОВЦС) одну паломническую группу в год, в составе которой были только «верующие в законе»: священники и работники церковных учреждений.

С началом перестройки и с улучшением отношений с Израилем ручеек паломников стал шириться. Помимо ОВЦС их стали отправлять многочисленные турфирмы, чьи цены и предлагаемый сервис зачастую были привлекательнее. За последние годы в Израиле побывали, кажется, все, кто хотел. Но совсем другое дело 2000-летие. Здесь за несколько месяцев ожидается такой объем путешественников, который в обычное время можно осваивать десятилетиями. Соответственно и прибыль. Только комиссия при московском правительстве уже готовит программу паломничества двух миллионов россиян.

За право вовремя занять место под юбилейным солнцем уже ведут борьбу несколько группировок, набивших руку в освоении «быстрых» денег.

Исторически первым является Отдел внешних церковных сношений Московского патриархата, возглавляемый митрополитом Смоленским и Калининградским Кириллом. Основные деньги до сих пор ОВЦС получал все же не от паломничества, а от торговли сигаретами и алкогольными напитками, на импорт которых Патриархия имела таможенные льготы. До сих пор памятны сертификаты на сигареты, где черным по белому значится: продавец — «ОВЦС Московской Патриархии» и место расположения склада — Данилов монастырь.

По некоторым оценкам, прибыль ОВЦС могла составить до полутора миллиардов долларов. Однако после серии публичных скандалов осенью прошлого года по настоянию бывшего министра внутренних дел Анатолия Куликова Патриархия была лишена внешнеэкономических льгот.

Денежный ручеек иссяк, надо искать новый. Вложить деньги в масштабные туристические мероприятия к 2000-летию христианства — и спокойнее, и престижнее, чем продолжать засвеченную аферу с сигаретами. Правда, для активной деятельности митрополиту Кириллу необходима поддержка Патриарха, а тот всегда недолюбливал Кирилла, слегка ревнуя к его публичной известности.

Второе действующее лицо на паломнической ниве — архиепископ Истринский Арсений. Именно в его непосредственном ведении находятся приходы г.Москвы — самые богатые во всей Церкви. Несмотря на то, что Арсений младше по званию и возрасту митрополита Кирилла, у него есть одно неоспоримое преимущество: «близость к телу» пожилого Патриарха. Выросший из старших иподиаконов (подобие денщика) в заместителя Патриарха по Москве, Арсений проживает вместе с Алексием II в Переделкино, и для него не проблема быстро получить благословение Святейшего на любое начинание.

На случай своей опалы или кончины Патриарха (в этом случае Арсения, скорее всего, ждет немедленная отставка) он заблаговременно взял под контроль несколько коммерческих структур. Считается, что архиепископ Арсений связан также с «Альфа-банком» и разорившимся при туманных обстоятельствах «Глория-банком», а также с солнцевской преступной группировкой, которая подарила переделкинскому храму колокол с литой надписью: «От настоятелей храма и солнцевской братвы». С тех пор, как сведения о двусмысленном подарке просочились в печать, на переделкинскую колокольню никого не пускают...

В борьбу за организацию массового юбилейного паломничества включились также структуры, ведущие свои истоки от московского правительства. Поэтому митрополит Кирилл прилагает немало усилий, чтобы «отжать» конкурентов. Видимо, по его настоянию Патриарх направил мэру Москвы письмо, в котором перечисляются «коварные» коммерческие структуры и говорится, что их деятельность — это «посягательство на исконные права собственности церковных структур», а организация паломничества по святым местам может находится только в ведении Церкви. Резкий тон письма выдает стремление во что бы то ни стало получить монополию на открывающийся денежный фонтан.

**Евгений КОМАРОВ,**
*«Новые Известия»*



# Сябры навечна

Прэзідэнт Казахстана Нурсултан Назарбаеў, які адзначыў сваё 58-годдзе ў Маскве 6 ліпеня, заявіў з гэтай нагоды, што галоўным падарункам для яго стала падпісанне з Расіяй «Дэкларацыі аб вечным сяброўстве і саюзніцтве». Не менш радаваўся і Барыс Ельцын. Сяброў у яго цяпер шмат — Біл, Гельмут, Жак, але вечны сябар у Расіі, ва ўсялякім выпадку юрыдычна, пакуль адзін — Казахстан.

**Б.П.**

# На Украіне спакойна. Халера сустракаецца рэдка

**Адпачынак на Украіне — у Крыме або каля Адэсы — шырока прапануюць беларускія турыстычныя фірмы. Намеснік галоўнага санітарнага ўрача Украіны Анатоль Падчанка сцвярджае, што ехаць можна.**

На Крымскім паўвостраве, куды ў летні час па яшчэ савецкай традыцыі кіруюцца тысячы беларусаў, баяцца ўвогуле няма чаго: ні халеры, ні іншых небяспечных інфекцыяў не выяўлена. Крыху горшая сітуацыя ў басейне Дняпра: у рэках Днепрапятроўскай вобласці знайшлі халерны вібрыён. Праўда, медыкі сцвярджаюць, што гэтая форма мікробаў ніякай небяспекі для людзей не ўяўляе. Але ў горадзе Марыупалі (былы Жданаў), куды з Мінска рэгулярна ходзіць цягнік, трое людзей усё ж захварэлі на халеру, а яшчэ 40 паклалі ў бальніцу — на ўсякі выпадак.

Зрэшты, у міністэрстве здароўя Украіны лічаць, што халера — гэта толькі на 10% медычная праблема, 40% рызыкі залежыць ад індывідуальнай гігіены, а галоўную адказнасць павінны несці службы водаправода, каналізацыі і «пляжнай гаспадаркі». Як перадае агенцтва Інтэрфакс, цяпер па ўсёй Украіне праводзіцца «комплекс мерапрыемстваў па дэзінфекцыі каналізацыйных сцёкаў». Так што ў мора халера патрапіць не павінна. Дай Бог.

**Магдалена НЕПАКАЙ**

# Звездный дождь несет опасность

**В ноябре 1998 года наша планета подвергнется самой мощной за последние 33 года бомбардировке метеорным потоком Леониды.**

То, что с земли будет выглядеть сотнями звездочек, прочерчивающих свой прощальный огненный след в ночной атмосфере, обернется серьезной опасностью для примерно 500 находящихся на орбитах военных и гражданских искусственных спутников, обеспечивающих связь, навигацию, сбор метеорологических и других данных. Для жителей планеты метеорный поток Леониды никакой опасности не представляет. Его образуют слишком маленькие частицы, некоторые из них тоньше человеческого волоса, а основная часть не превышает по размерам песчинку — и все они, вспыхнув, без следа сгорят в защищающей планету атмосфере. Однако для космических аппаратов, летающих выше земной атмосферы, ситуация оказывается принципиально иной — мчащиеся с космической скоростью песчинки обладают разрушительной силой пули 22-го калибра и способны наделать немало бед. По словам специалистов, крохотные метеориты могут пробивать дыры в панелях солнечных элементов, разбивать линзы, вспарывать отражающее покрытие зеркал, выводить из строя бортовую электронику и даже портить программное обеспечение компьютеров космических аппаратов.

**Б.П.**

 

# Нясвіжскі летуценнік

**Прыкладна гэтай парой 151 год таму, кароткай месячнай ноччу ў ліпені 1847 года, на мяжы Аўстра-Венгрыі і Расіі каля мястэчка Радзівілава паліцэйскі прыстаў перахапіў фурманку з трыма важкімі мяхамі кантрабанды. Выпадак можна было б запісаць у разрад банальных, каб гэтым разам, апрача звычайных тавараў, царскія служакі не знайшлі нешта больш істотнае: «пераплеценых кніг на замежных мовах — 11, без пераплёту — 36, розных рукапісных сшыткаў — 65, лістоў — 346...» У затрыманых дакументах і рукапісах раз-пораз сустракалася прозвішча Незабытоўскі.**

**Неадкладна быў падпісаны загад аб арышце памешчыка Менскай губерні Аляксандра Хрыстафоравіча Незабытоўскага, які напярэдадні перасек мяжу, вяртаючыся з трохгадовага падарожжа па Заходняй Еўропе і Міжземнамор'і ў свой маёнтак Смалічы пад Нясвіжам.**


RÊVES
D'AMOUR, DE GLOIRE
ET
DE LIBERTÉ.
FRAGMENTS.
TOME PREMIER.
PARIS.
IMPRIMERIE DE BOURGOGNE ET MARTINET,
RUE JACOB, 30.
1845.

*Вокладка кнігі А.Незабытоўскага «Мары пра каханне, славу і свабоду»*

Справаю ўладара кантрабандных кніг і рукапісаў заняўся сам галоўнакамандуючы дзейнай арміі генерал-фельдмаршал Паскевіч. З ягонай канцылярыі выходзіць адрасаваны віленскаму генерал-губернатару ліст аб тым, што *«перахопленыя паперы выкрываюць Незабытоўскага ў наступных злачынствах: 1. У знявазе гасудара імператара і іншых высокіх асобаў самай што ні ёсць брыдкай і дзікай лаянкай. 2. У лютай нянавісці супраць урада. 3. У пошуках сродкаў для знішчэння цяперашняга ладу ў Расіі. 4. У напісанні заклікаў з мэтаю ўзбунтаваць заходнія правінцыі і адарваць іх ад Расійскай імперыі».*

Так Незабытоўскі апынуўся ў адзіночнай камеры № 13 колішняга дамініканскага кляштара ў Вільні, у тых самых мурах, дзе ў свой час былі зняволены Адам Міцкевіч з сябрамі — філаматамі і філарэтамі, а пазней — паўстанец 1830 года Сымон Канарскі і беларускі паэт-дэмакрат Францішак Савіч. Выдварыца адтуль на волю шчасціла нямногім: Канарскага расстралялі, Савіча выслалі салдатам на Каўказ...

Наглядчыкам і канваірам забаранілі размаўляць з вязнем. Пра чалавека з трынаццатай камеры яны ведалі толькі тое, што ён напісаў нейкія крамольныя кнігі. Гэта была праўда: пяру Незабытоўскага належала сем ананімна выдадзеных у Вільні і Парыжы кніжак. Асобае месца сярод іх займалі надрукаваныя ў Францыі мемуары пра нацыянальна-вызвольнае паўстанне 1830–1831 гадоў і раман-утопія «Мары пра каханне, славу і свабоду».

Менавіта за дзве апошнія кнігі малады пісьменнік, філосаф і гісторык атрымаў ад царскага правасуддзя свой «ганарар» — пазбаўленне дваранскай годнасці (кат павінен быў зламаць над яго галавой шпагу) і маёмасных правоў, а ў дадатак — яшчэ дваццаць гадоў катаргі. Так у імперыі судзілі толькі найбольш небяспечных дзяржаўных злачынцаў.

Напачатку следства вёў штабс-капітан Мілер. Каб выклікаць вязня на шчырасць, ён расказваў на допытах пра свае поспехі ў жанчын, а потым, пускаючы блакітныя кольцы дыму ад дарагой цыгары, заводзіў гаворку пра тое, як ён моцна перажывае, што выхаванец Дэрпцкага універсітэта, адзін з самых багатых землеўладальнікаў павета Незабытоўскі бавіць час у сырой халоднай камеры. Грубая ежа, нямытае адзенне, прусакі, вошы... Маўляў, нават толькі дзеля захавання чалавечае годнасці ён, следчы, на месцы свайго «падапечнага» зрабіў бы ўсё магчымае, каб аблегчыць свой лёс. Ужо адно прызнанне віны...

Але Незабытоўскі і той штабс-капітан мелі розныя ўяўленні пра чалавечую годнасць і спосабы яе захавання. Перамогі над віленскімі панямі і паненкамі даваліся Мілеру значна лягчэй, чым над палітычнымі злачынцамі. І неўзабаве свяцлейшы князь Варшаўскі Паскевіч асабіста прызначыў новага следчага.

Пратэжэ генерал-фельдмаршала стацкі саветнік Явецкі лічыў, што яму пашанцавала. Не трэба было мець вялікага таленту, каб здагадацца: трэба параўнаць почыркі ў прашэнні Незабытоўскага аб паездцы за мяжу і ў захопленых жандарамі рукапісах. Апрача таго, у мемуарах беларускі шляхціц імкнуўся быць праўдзівым, і следству было вельмі проста суаднесці ананімныя ўспаміны з жыццём нясвіжскага памешчыка. Явецкаму мроілася, што не сёння, дык заўтра ён пачуе поўнае прызнанне — і будзе трыумфатарам. Сапраўды, ягоныя доказы немагчыма было абвергнуць. Але іх можна было не прызнаваць.

Якраз такую тактыку і абраў вязень. Філосаф, які калісьці ў юнацтве за адну бяссонную ноч склаў параўнальны жыццяпіс Напалеона і Аляксандра Македонскага. Пісьменнік, які прагнуў славы і ўтаймоўваў гэтую прагу, не ставячы на сваіх кнігах свайго імя. Шляхціц, які паслядоўна называў сябе ліцвінам і ліцьвінам, што не мае права ні дня быць шчаслівым, пакуль няшчасная Айчына.

Незабытоўскі вырашыў зрабіць усё, каб яго справа не склалася на кар'ерным шляху Явецкага прыступкаю ўгору — ад стацкага саветніка да сапраўднага стацкага, ад ордэна св. Ганны з каронай да св. Уладзіміра...

На адным з допытаў падследны паведамляе, што «любіць чытаць кнігі, але аўтарствам ніколі не займаўся». Ужо не верачы ў магчымасць вырваць прызнанне, Явецкі выклікае ў Вільню сведкаў з нясвіжскага маёнтка і ваколіцаў — аканома, арандатараў, слугаў. Лаканічны рапарт у вышэйшыя інстанцыі кажа пра многае: *«З прычыны незвычайнай упартасці арыштаванага ў прызнанні нават відавочнай існіны камісія прызнала непатрэбным даваць яму вочныя стаўкі».*

З доўгага абвінаваўчага акта працытуем толькі адзін пункт: *«Прызнаецца, што з дзяцінства ненавідзіць дэспатызм, рабства і арыстакратыю і што любоў да свабоды і нянавісць да яе ворагаў успрыняў з малаком маці і глыбока ўкараніў у сваю душу рэспубліканскія правілы».*

Прысуд палявога аўдытарыята дзейнай арміі быў зацверджаны генерал-фельдмаршалам Паскевічам 17 лютага 1849 года. Праз дзень адпаведны рапарт лёг на стол цару Мікалаю І, які пакінуў пакаранне без зменаў. Неўзабаве ў кабінеце віленскага генерал-губернатара шчоўкнуў абцасамі сталічны фельд'егер, што неадкладна атрымаў прагонныя на пару коней ад Вільні да Табольска і назад.

Аднак адмераныя царскім правасуддзем дваццаць катаржных гадоў ужо не палохалі Аляксандра Незабытоўскага. Ён адчуваў, што хвароба пакінула яму лічаныя дні. Перавесці палітычнага арыштанта з камеры ў шпіталь можна было толькі з дазволу імператара. Мікалай І падпісаў «літасцівы» дазвол 21 сакавіка. У той самы дзень турэмны доктар канстатаваў, што сэрца беларускага вальнадумца, якому ішоў толькі трыццаты год, спынілася.

Праз тыдзень цару трэці раз далажылі пра непакорлівага палітычнага злачынцу і на матэрыялах судовай справы з'явіўся грыф: *«Захоўваць вечна».*

Дзекабрыст Міхаіл Лунін аднойчы афарыстычна заўважыў, што ў Расіі два праваднікі: язык — да Кіева, а пяро — да Шлісельбурга, маючы на ўвазе сумнавядомую крэпасць-астрог для палітычных зняволеных. «Разбуджаны» дзекабрыстамі Аляксандр Герцэн удакладніў: *«Ворагі нашы ніколі не раздзялялі слова і справы, і за слова яны каралі часта яшчэ больш жорстка, чым за справу».*

На абшарах былой Расійскай імперыі гэтае выслоўе, у многім назіранне не страціла актуальнасці і сёння.

**Уладзімір АРЛОЎ**

# Даты і лёсы

## *10 ліпеня*

**1067.** Полацкі князь Усяслаў трапіў каля Оршы ў палон да сваіх ворагаў — кіеўскай дынастыі Яраславічаў. Праз год паўсталыя кіяўляне вызвалілі яго з астрога і абралі сваім князем. Усяслаў княжыў у Кіеве сем месяцаў, а потым вырашыў вярнуцца на радзіму.

**1940.** Указам Прэзідыума ВС СССР выпуск бракаванай прадукцыі абвяшчаўся дзяржаўным злачынствам. За парушэнне вытворчых стандартаў кіраўніцтву заводаў пагражала зняволенне да 8 гадоў.

**1942.** Нарадзіўся беларускі касманаўт Пётр Клімук. У 1973-78 гг. ён тройчы наведваў калязямную прастору, а цяпер кіруе падрыхтоўкай расійскіх касманаўтаў пад Масквой. У гэты ж дзень у 1962 г. амерыканцы вывелі на арбіту першы тэлевізійны спадарожнік *Telstar-1*.

**1985.** Французскія спецслужбы ўзарвалі карабель экалагічнай арганізацыі *Greenpeace*, які перашкаджаў выпрабаванням атамнай зброі ў Ціхім акіяне. Экіпаж уратаваўся, але адзін фотажурналіст загінуў.

**1994.** Аляксандр Лукашэнка быў абраны першым (а некаторыя мяркуюць, што і апошнім) прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

## *11 ліпеня*

**1793.** Прадстаўнікі расійскай імператрыцы і караля Рэчы Паспалітай падпісалі ў Гародні канчатковы трактат пра другі падзел земляў ВКЛ (па лініі Нарач—Пінск).

**1905.** У Мінску пачаўся шматтысячны страйк салідарнасці з жорстка пакаранымі забастоўшчыкамі Лодзі, Варшавы і Адэсы, дзе тысячы былі расстраляныя царскімі ўладамі. Падчас дэманстрацыі на вул.Багадзельнай (цяпер Камсамольскай) казакі забілі трох і арыштавалі 185 рабочых. На наступны дзень, падчас разгону жалобнага мітынгу, былі яшчэ ахвяры.

**1918.** У Маскве адчыніўся Беларускі народны універсітэт. У гэты ж дзень у **1921** г. у Мінскім дзяржаўным тэатры наркам асветы У.Ігнатоўскі абвесціў пра адкрыццё БДУ.

**1935.** Міхаіл Калінін уручыў Беларускай ССР ордэн Леніна.

**1975.** Паблізу старажытнай кітайскай сталіцы Сіян пад зямлёй было знойдзена «сакрэтнае войска» — 6 тысяч гліняных скульптур у чалавечы рост. Не было двух аднолькавых жаўнераў: кожны меў індывідуальныя рысы твару.

**1987.** Насельніцтва зямнога шара дасягнула 5 млрд. чалавек. 5-мільярдным жыхарам планеты лічыцца харват Мацей Гашпар з горада Загрэб.

## *12 ліпеня*

**100 да н.э.** Нарадзіўся вялікі рымскі ваявода і дзяржаўны дзеяч Гай Юлій Цэзар. Гэты месяц у многіх мовах цяпер называюць у ягоны гонар: *July*, июль і да т.п. Таксама ў гонар Цэзара календар, якім карыстаецца праваслаўная царква, называецца юліянскім.

**1878.** Турцыя перадала Кіпр у склад Брытанскай імперыі.

**1920.** Прэзідэнт ЗША Вільсан адчыніў Панамскі канал. З таго часу Штаты кантралююць гэтую тэрыторыю, якая ім фактычна не належыць.

**1920.** Літва падпісала мірны дагавор з Расіяй, паводле якога ў склад Літвы мусілі адысці Вільня, Гародня, Ліда, Паставы і Браслаў. За гэты «падарунак» усё літоўскае войска (2 дывізіі) абавязвалася біцца разам з Чырвонай Арміяй супраць Польшчы.

**1977.** На адной з паўднёваафрыканскіх шахтаў людзі спусціліся пад зямлю на рэкордную глыбіню — 3.581 м. Тэмпература дасягае там 55°С.

## *13 ліпеня*

**1793.** У ванне загінуў ад кінжала тэрарысткі адзін з лідэраў французскай рэвалюцыі Жан Поль Марат. Ён амаль увесь вольны час праводзіў у вадзе: гэта суцішвала пакуты ад захворвання скуры, якое Марат займеў у парыжскай каналізацыі, дзе ў свой час хаваўся ад манархістаў.

**1930.** У Мантэвідэа, сталіцы Уругвая, пачаўся першы чэмпіянат свету па футболе. Перамаглі гаспадары. У чэмпіянаце ўдзельнічалі толькі 13 камандаў: прадстаўнікі некаторых еўрапейскіх краінаў адмовіліся ад удзелу з прычыны надта вялікіх расходаў на дарогу ў Лацінскую Амерыку.

**1941.** Савецкія войскі фарсіравалі Днепр і на некаторы час вызвалілі ад фашыстаў Рагачоў і Жлобін.

*Падрыхтаваў* **Юрась БАРЫСЕВІЧ**

# «Заходнюю Беларусь» не падтрымалі

**У Гродне заснаванае Беларускае краязнаўчае таварыства імя Тодара Нарбута. Старшынём Рады абраны прафесар Гродзенскага універсітэта С.Габрусевіч.**

Некаторыя прапаноўвалі назваць новае таварыства «рэгіянальным заходнебеларускім». Аднак гэтая думка выклікала вялікія спрэчкі. Маўляў, беларусы і так падзеленыя на ўсходнікаў і заходнікаў, праваслаўных і каталікоў, «палякаў і рускіх», так што няма чаго дзяліць яшчэ і краязнаўцаў па рэгіёнах. Затое адразу пагадзіліся з іменем «патрона»: Тодар Нарбут — вядомы гісторык XIX стагоддзя, даследаваў гісторыю Вялікага Княства Літоўскага, праводзіў на беларускай зямлі археалагічныя раскопкі, быў аўтарам праекта пабудовы Бабруйскай крэпасці.



*Бастыён Бабруйскай крэпасці, спраектаваны Т.Нарбутам.*

Дзейнасць таварыства ўсё ж будзе распаўсюджвацца пераважна на заходнія абшары Беларусі. Адна з асноўных задач — прыцягнуць да краязнаўства моладзь, для якой плануецца арганізоўваць летнікі, паходы, археалагічныя экспедыцыі; будзе выдавацца гісторыка-краязнаўчы часопіс.

Удзельнікі ўстаноўчага сходу прынялі таксама зварот да Міністэрства культуры супраць закрыцця філіі Нацыянальнага мастацкага музея ў Гальшанах.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

**АФІША**

# Містыка і эротыка

Маладзёжны тэатр рыхтуе да прэм'еры новы спектакль — «Тойбэлэ і яе дэман» паводле п'есы Ісаака Башэвіса Зінгера, вядомага габрэйскага пісьменніка пачатку XX стагоддзя, лаўрэата Нобелеўскай прэміі.

Габрэйская тэматыка займае ў сучасным беларускім тэатральным рэпертуары сціплае, але трывалае месца. Купалаўцы шмат гадоў збіраюць апладысменты на «Памінальнай малітве», у Рускім тэатры рэгулярна праходзяць «Вечарыны габрэйскага анекдота». Вось і Маладзёжны тэатр вырашыў падтрымаць масцітых калегаў. Праўда, выбар п'есы І.Б.Зінгера тлумачыцца не столькі нацыянальным каларытам, колькі захапляльным сюжэтам, якасцю драматургічнага матэрыялу. Сюжэт гэтага даволі вядомага твора (які, аднак, ніколі яшчэ не ставіўся ў Мінску) заменшана на каханні. Нейкі малады чалавек падманам дабіваецца кахання маладой жанчыны (яе завуць Тойбэлэ), прадстаўляючыся дэманічнай істотай. У п'есе не так шмат містыкі, больш эротыкі. Аднак, сказалі нам у Маладзёжным тэатры, у пастаноўцы нашага Якава Натапава ніводная эратычная сцэна (частка дзейства праходзіць проста ў ложку) не выкліча ў публікі шоку і цэнзуры можна не баяцца.

У новым спектаклі занятыя таленавітыя акцёры Алена Унукава і Сяргей Журавель. Пастаноўка практычна гатовая, і на гэтым тыдні праходзяць першыя прагоны — пакуль што не для шырокай публікі, а для мастацкага савета, журналістаў (во шчаслівыя), а таксама сяброў і знаёмых супрацоўнікаў тэатра. Так што, хоць квіткі і не прадаюцца, можна здабыць кантрамарку. Паказаць «Тойбэлэ і яе дэмана» ўсім мінскім тэатралам Маладзёжны тэатр абяцае адразу ж пасля адкрыцця наступнага тэатральнага сезона.

А так тэатральны выбар сярэдзіны лета зусім небагаты. На наступным тыдні адкрыта будзе працаваць толькі адзін мінскі тэатр — гэта Тэатр-студыя кінаакцёра. 12 ліпеня тут пройдзе «Айседора. Танец кахання», 14 і 15 — «Мы ідзём глядзець «Чапаева», 15-га — «Каханне смешнага чалавека».

10 і 12 ліпеня ў памяшканні Тэатра імя Янкі Купалы пакажа апошнія спектаклі Арэнбургскі драматычны тэатр, які заняў гэтую сцэну на гастролі. Абодва дні гэта будзе камедыя французскіх аўтараў Ж.Брыкера і М.Ласега «Не вер сваім вачам».

Адзіны ў бліжэйшы час канцэрт класічнай музыкі пройдзе 16 ліпеня ў Зале камернай музыкі. Арганныя творы Букстэхудэ, Керля і Баха прагучаць у выкананні лаўрэаткі міжнароднага конкурсу Кацярыны Кафанавай.

**Ганна ШЫМЕЛЕВІЧ**

